*Газета Гоман Барысаўшчыны - гэта адзіная бязмежная крыніца невядомай і малавядомай інфармацыі аб нашым краі. Чытайце і выпісвайце нашу газету!*



**№3(12)**
2000г.
сакавік

# ГОМАН БАРЫСАЎШЧЫНЫ

**Грамадска - палітычная, асветніцкая газета**

**Выдаецца са жніўня 1996 г.**

**Кошт свабодны**

## *Віншуем!*

*Нядаўна былі падведзены вынікі агульнабеларускага конкурсу на лепшую вясковую школу, які ладзіла Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны. Сярод шасці пераможцаў, што атрымалі першае месца, - школа - садок з вёскі Мётча Барысаўскага раёна. Яна, як і пяць іншых пераможцаў, прызнана самай патрыятычнай. Віншуем!*

## ЦІ ЎБАЧЫМ МЫ АДРАДЖЭННЕ СТАРОГА ГОРАДА?

**(*Чытайце на стар.4*)**



*Сучасны выгляд і праект рэстаўрацыі будынка на рагу вул. III Інтэрнацыянала і Камсамольскай*

Выгляд з боку вул. Камсамольскай

Выгляд з боку вул. III Інтэрнацыянала



# Як паведамілі рэдакцыі...

Адным з пытанняў, якім заўсёды ўдзяляе ўвагу наша газета, з'яўляецца пытанне экалогіі нашага горада. А таму мы стараемся адрэагаваць адразу на ўсякія спробы пагоршыць экалагічную сітуацыю, спрабуем разабрацца ў дзеяннях шматлікіх арганізацый і фірм , што могуць даць непажаданы вынік прыродакарыстання.

Чытачы «Гомана Барысаўшчыны» зацікавіліся тым, з якой мэтай і хто вядзе работы па высечцы дрэў у вярбовым насаджэнні каля завода агрэгатаў і ўздоўж пашыранага палатна дарогі ў гэтым жа раёне. Як паведаміў нам галоўны інжэнер ЖКГ Паўлечка М.Н., іх арганізацыя праводзіць санітарную высечку вербаў, якія пасохлі або паломаныя ветрам.Высечку канадскага клёну ўздоўж палатна дарогі праводзіць ДЭУ 69.Высякаюцца таксама пашкоджаныя дрэвы і якія аказаліся не на месцы з-за пашырэння дарогі. Начальнік ДЭУ Стэфанскі Л.В. паведаміў, што работы ўзгоднены з інспекцыяй па ахове акаляючага асяроддзя.

Акрамя таго, рэдакцыі стала вядома, што выканкам плануе ў будучым замяніць канадскі клён, якім у асноўным абсаджана магістраль, на іншыя дрэвы. Хутчэй за ўсё, гэта будуць беларускія дрэвы.

***М.Пучыла***

# Рэха мінулых падзей

Нядаўна на імя камандзіра барысаўскай пажарнай часткі прыйшоў ліст з Нямеччыны ад камандзіра пажарнай часткі горада Майнтал Хайнца Баўшара. У лісце ідзе гаворка аб падзеях, якія адбыліся пад Барысавам у чэрвені 1944 года. У той час ішло наступленне 11-й гвардзейскай і 31-й армій 3-га Беларускага фронта на войскі вермахта. У гэтых баях 29 чэрвеня 1944 года каля маста праз Бярэзіну каля вёскі Вялікая Ухалода загінуў бацька Хайнца Баўшара.

Баўшар ад свайго імя і ад імя сваёй маці - жонкі загінуўшага вайскоўца звяртаецца з просьбай дапамагчы адшукаць месца, дзе знаходзяцца пахаванні загінуўшых у тых баях нямецкіх салдат ці, можа, дзе знаходзіліся такія пахаванні раней. Жонцы былога салдата, якой зараз 90 год, вельмі важна на зыходзе свайго веку даведацца, ці знайшоў супакой яе муж на беларускай зямлі.

***Ад рэдакцыі**: Супрацоўнікі газеты «Гоман Барысаўшчыны» былі б шчыра ўдзячны ўсім, што змог бы аказаць дапамогу і паведаміць хоць нейкія звесткі пра месца пахавання салдат вермахта, якія загінулі напрыканцы чэрвеня 1944 года ў баях каля Вялікай Ухалоды*

Нагадваем, што на газету **«Гоман Барысаўшчыны»** можна падпісацца ў любым аддзяленні сувязі.

Падпісны індэкс выдання

***64184***

Кошт індывідуальнай падпіскі:

на **1** месяц - **90** руб.
на **2** месяцы - **180** руб.

Кошт ведамаснай падпіскі:

на **1** месяц - **135** руб.
на **2** месяцы - **270** руб.

# «Парадная» зала для папугаяў

Выхаваўчы працэс дзіцячага садка №38 спецыялізаваны ў экалагічным накірунку. Вопыт, назапашаны гэтым калектывам, цікавы не толькі для сістэмы адукацыі нашага горада, але і рэспублікі. Пастаяннымі гасцямі садка з'яўляюцца навучэнцы педагагічных курсаў павышэння кваліфікацыі,студэнты педкаледжа.

Інтарэс педагогаў перш за ўсё выклікаюць разнастайныя метадычныя распрацоўкі па экалагічнаму выхаванню дзяцей, багатая метадычная літаратура па тэме, назапашаныя тут. Літаральна на кожным кроку ў садку можна назіраць канкрэтную работу з дзяцьмі і меркаваць аб яе эфектыўнасці.

Заняткі праходзяць у спецыяльна абсталяваным экалагічным пакоі, нядаўна рэканструяваным. Дзяцей тут надта вабяць новыя акварыумы з самымі разнастайнымі іх насельнікамі. А на бліжэйшы час плануецца перабсталяванне вальераў. Шэфы садка - ваеннаслужачыя адной з воінскіх часцей - ужо прапанавалі новую планіроўку. Згодна з ёю вальеры размесцяцца ў два паверхі. Ніжэй будуць пражываць чарапахі, марскія свінкі, дэкаратыўныя пацюкі і хамякі,а вышэй будзе створана сапраўднае птушынае царства, у якім «парадная зала»,бясспрэчна, аддаецца прадстаўнікам розных відаў папугаяў.

Загадчыца садка З.П.Караткова ўпэўнена, што работа па экалагічнаму выхаванню, якую яна арганізуе і развівае з такім стараннем і сістэмнасцю, - якраз тое, што найбольш патрэбна і дзецям, і іх бацькам.

*А.Турко*



Фота В.Спіранскага

# З Барысавам магло быць непаразуменне

Усе мы ведаем, хто і калі заснаваў наш горад, а таму і паходжанне яго назвы не выклікае сумненняў.

Аднак, інакш думае вядомы беларускі гісторык М.Ермаловіч. Вось як ён, выкарыстоўваючы ў комплексе матэрыялы летапісаў і лінгвістычныя крытэрыі, тлумачыць паходжанне назвы нашага горада. «Паводле В.Тацішчава, у 1102 годзе (гэта значыць праз год пасля смерці Усяслава), полацкі князь Барыс хадзіў на яцвягаў і, перамогшы іх, вярнуўся назад і паставіў горад Барысаў у сваё імя...» Праўда, заснаванне горада на Бярэзіне Барысам у сваё імя можа здацца праблематычным. Справа ў тым, што на карце Барысава, якая адносіцца да 1595 года, паказана рэчка Барыса, што на першы погляд робіць магчымым паходжанне назвы горада ад рэчкі. Аднак суфікс прыналежнасці -аў (-ов) гаворыць у карысць заснавання горада Барысам. Звычайна назвы гарадоў, утвораныя ад гідронімаў, мелі суфікс «ск» (параўнанне: Друцк, Слуцк, Пінск; па схеме Случчьскъ - Слутск - Слуцк).

Добра, што непаразумення не адбылося.

*М.Пучыла*

# Дробязь, але прыемна

Газета «Гоман Барысаўшчыны» ў адным з папярэдніх нумароў пісала аб тым, што ў Барысаве новыя шыльды з надпісамі вуліц робяцца выключна па - руску. Нам прыемна адзначыць, што ў нашым горадзе зноў сталі з'яўляцца надпісы вуліцаў па-беларуску. Ва ўсякім разе беларускамоўная шыльда з'явілася на будынку гарвыканкама. У сувязі з гэтым хацелася б выказаць падзяку ініцыятарам гэтай падзеі, і спадзяемся, што ўсе новыя надпісы назваў вуліцаў будуць выконвацца выключна на мове народа, які тут пражывае.

*В.Стэфановіч*

# На задворках цывілізацыі

Вось ужо некалькі гадоў жыхары старой часткі горада адчуваюць, як тэхнічны прагрэс і цывілізацыя ўсё далей і далей адыходзіць ад іх жыцця. Раней тут было намнога больш розных устаноў і крамаў.

Пачыналася з таго, што гарпрамгандаль зачыніў магазіны: «Спорттавары», «Фотатавары, гадзіннікі», «Рыдыётавары» і інш. Цяпер з-за любой дробяззю трэба ехаць у «край свету». І вось цяпер навісла пагроза над філіялам гарадской цэнтральнай бібліятэкі №1, які знаходзіцца па вул. Дзяржынскага, 84. Барысаўскаму леспрамгасу зноў спатрэбіўся будынак, якім карысталася бібліятэка многія годы. Як паведаміла нам дырэктар гарадской цэнтральнай бібліятэкі Г.М.Слесарэнка, прыкладаецца шмат намаганняў, каб знайсці іншае памяшканне, а пакуль леспрамгас дазволіў выкарыстоўваць адзін пакой. Спадзяемся, што пяць тысяч чытачоў старой часткі горада не застануцца без бібліятэкі.

А зусім побач пацiху разбураецца будынак былога ваенкамата, які, як помнік архітэктуры, нібыта ахоўваецца дзяржавай. Некалькі гадоў таму ён быў прададзены з аукцыёна, відаць таму, каму ён не патрэбен..

*І.Сямёнава*

# Вясна: пошукі зброі

Вясна. Адчайныя спробы матухны - зімы затрымацца растаюць разам з апошнімі сантыметрамі снежнага пакрову.

Радасць!? Здавалася б, ніякіх другіх пачуццяў у гэтай сувязі і быць не можа. У асноўным так яно і ёсць. Вясне радуюцца амаль усе: і дачнік, у якога на падваконніках ужо зеляее расада, і школьнік, які ці не кожнай клеткай прадчувае летнія канікулы, і работнік, якому графік водпускаў гэты раз спрыяе адпачываць у цёплую пару года...! Аднак мала падстаў радавацца ў кіраўнікоў прадпрыемстваў, устаноў, кантор..., асабліва школ, якім безапеляцыйнымі распараджэннямі старшыні гарвыканкама загадана прывесці да ладу замацаваныя за імі тэрыторыі.

У гэтым не было б нічога новага і страшнага, калі б было чым наводзіць парадак. Але апошнія гады на просьбы выдзеліць сродкі на набыццё інвентару ўлады разводзяць рукамі: «Сродкаў няма!». Як чалавек дасведчаны ў адносінах гаспадару і падначаленых у розныя гістарычныя эпохі, ведаю, што гаспадары часта, вельмі часта, за работу не плацілі. Але каб пры гэтым не давалі чым выконваць яе?!

Тое, што ў нас, каб выканаць звычайную (для большасці іншых людзей) работу, зазвычай арганізоўваюцца штабы, разгортваюцца франты, праводзяцца бітвы, нагадала не такую даўнюю старонку нашай гісторыі. У Вялікую Айчынную вайну многім патрыятычна настроеным людзям, гатовым прыняць удзел у ачышчы роднай зямлі ад варожай навалачы, каб папоўніць рады народных мсціўцаў, трэба было набыць (адваяваць, украсці ў ворага) зброю самому.

Мы гатовы прыняць удзел у чарговай бітве за чысціню вуліц і двароў роднага горада.

Дзе наша зброя? Хто нам яе дасць? Ці...

*І.Белы*

# Ненадзейная апора

У буйнейшым універмазе нашага горада «Доме гандлю» доўгі час праводзяўся рамонт, мэтай якога, зразумела, былі добрыя намеры зрабіць памяшканне больш утульным і зручным для пакупнікоў. Але, як кажуць, «благімі намерамі выкладзена дарога ў пекла...» Укладзеныя сродкі, праца і час не прынеслі барысаўцам большай зручнасці і задавальнення. Памяшканне не стала больш утульным, пакупніку цяжка арыентавацца ў раскіданых аддзелах. Але найбольшую занепакоенасць выклікае лесвіца на другі паверх. Яна ўжо зараз знаходзіцца ў аварыйным стане. Падымаючыся ці спускаючыся ўніз, не раю вам спадзявацца на поручні гэтай нованырабленай лесвіцы. Трымаючца яны на маленькіх шрубах, якія няўстойліва калыхаюцца з боку ў бок разам з гэтымі поручнямі. Такім чынам, любы з пакупнікоў мае шанец апынуцца ў траўматалагічным аддзяленні бальніцы. Асабліва непакоіць тое, што больш за ўсё поручнямі карыстаюцца малыя, старыя і хворыя людзі. Цікава, што да рамонту лесвіцы былі вельмі зручнымі і надзейнымі.

*І.Сямёнава*

# Музеі - як і зоркі...

Кожны музей акрамя канкрэтнага навукова-гістарычнага значэння мае яшчэ і глыбінны пачуццёвы, эмацыянальны сэнс. Канкрэтная старонка навейшай савецкай і беларускай гісторыі - афганская вайна - выклікае складаны клубок пачуццяў, якія прымушаюць раз-пораз задаваць пытанне: за што і навошта?

У Барысаўскай гімназіі №2 у адным з класных памяшканняў размешчаны, дарэчы, адзіны ў Беларусі музей афганскай вайны. Не школьнікі і не настаўнікі маюць дачыненне да яго стварэння. Гэта члены барысаўскай Асацыяцыі воінаў-інтэрнацыяналістаў арэндавалі памяшканне, каб размясціць там унікальны матэрыял - статыстычныя дадзеныя,здымкі загінуўшых барысаўчан, стралковую зброю і міны праціўніка. Там можна ўбачыць таксама здымак помніка савецкім воінам у Кабуле, які быў разбураны пасля вываду войскаў, і прачытаць аб прычынах пачатку вайны, што забрала столькі жыццяў.

Экскурсавод - былы воін-афганец - сустракае ў музеі дэлегацыі з розных куткоў Беларусі, Расіі і нават з далёкага замежжа. І пабываўшы на такой экскурсіі, узварухнуўшы ў сябе гэты цяжкі клубок супярэчлівых адчуванняў, пачынаеш яшчэ больш яскрава разумець, што музеі - яны як і зоркі: калі іх ствараюць, то некаму гэта вельмі патрэбна.

*А.Турко*

# На карысць пацыента

Не часта здараюцца адчувальныя змены ва ўсталяваўшымся парадку аховы здароўя ў нашым горадзе. Але ўсё ж не варта абвінавачваць нашу медыцыну ў адсутнасці прагрэсу.У апошні час павінна палепшыцца тэхнічнае аснашчэнне 1-ай палiклінікі за кошт установкі новага апарата - пульманаскопа. Гэтая ўстаноўка, якая каштуе 32 мільёны рублёў, здольна з большай эфектыўнасцю выконваць функцыі звычайнага флюарографа, падвяргаючы намнога меншай прамянёвай нагрузцы пацыентаў.

*А.Турко*

# Ад фантазіі да справы - адзін крок?

Каб адчуваць сябе гарманічнай часткай акаляючага асяроддзя, патрэбна, перш за ўсё, развіваць у сабе экалагічную накіраванасць мыслення. Так лічыць настаўніца біялогіі і хіміі СШ №12 Святлана Станіславаўна Вабішэвіч. Яе выхаваўчае ўздзеянне на дзяцей не заканчваецца рамкамі адведзеных па праграме ўрокаў. Захапляючай справай распрацоўкі праектаў па экалагізацыі горада яна літаральна прывабіла вельмі многіх старшакласнікаў.

У цяперашні час на стадыі завяршэння знаходзіцца распрацоўка школьнага праекта бензазаправачнай станцыі. Яго ідэю прапанавала сама Святлана Станіславаўна, якой дастаткова было аднойчы пабачыць надта прыгожы, натуральна ўпісаны ў акаляючы ландшафт заправачны комплекс недзе ў Прыбалтыцы.

Між тым, настаўніца паставіла перад дзецьмі толькі агульную задачу: стварыць у будучым праекце гармонію кветак, травы і асфальту. Далей жа працавала дзіцячая фантазія.

На эскізах будучай станцыі бачны маленькі вадападзік, прадугледжаны выкарыстаннем натуральнага ландшафта і аздоблены вячэрняй падсветкай, выкладзены каменнямі брук, клумбы з някідкіх, але цудоўна падабраных па колеры кветак, побач старынны кабрыялет, выразаны з дрэва рукою майстра, невялікая клумба руж.

На думку дзяцей, гэта павінна быць месца, дзе стомлены падарожнік змог бы адпачыць душою і целам, дзе ён захацеў бы падумаць пра высокае і атрымаць асалоду ад гармоніі з прыродай.

Аднак як жа перанесці ўсё гэта з дзіцячых эскізаў хаця б на адну з барысаўскіх заправак, якія нагадваюць сабой наспех забетанаваныя пустошы, прапахлыя бензінам і мазутам?

Святлана Станіславаўна Вабішэвіч і яе выхаванцы лічаць, што рэалізацыя іх праекта можа быць ажыццёўлена пры ўмове наяўнасці жадання ад гарадской улады гэта зрабіць, а таксама сродкаў. Падвезці пясок, камені, закупіць насенне для газонаў- усё гэта, вядома ж, павінны зрабіць гарадскія службы. А дзеці ў баку таксама не застануцца. Яны з ахвотай возьмуць на сябе пасадку, пафарбоўку, догляд.Дык чаму ж, сапраўды, і не паспрабаваць?

*А.Турко*



# Барысаўскі Васкрасенскі манастыр

У далечыні ад цэнтра старога горада, недалёка ад сквера па вуліцы Дзяржынскага знаходзіцца невялікая драўляная царква. Аб яе існаванні ведае далёка не кожны жыхар Барысава. Раней жа вакол яе і Васкрасенскага мужчынскага манастыра, пры якім яна існавала, разгортваліся гучныя падзеі, якія не раз уздымаліся нават на міждзяржаўным узроўні.

Калі быў заснаваны барысаўскі Васкрасенскі манастыр, зараз сказаць цяжка. Архімандрыд Мікалай, які ў сярэдзіне XIX стагоддзя даследаваў гэтае пытанне, прыйшоў да высновы, што ён з'яўляўся адным са старэйшых праваслаўных манастыроў на Беларусі і заснаваны ў XII - пачатку XIII стагоддзя. Час пабудовы існуючай зараз царквы даследчыкі ў XIX - на пачатку XX стагоддзя высвятліць не змаглі. Яны толькі адзначалі , што царква з'яўлялася вельмі старой. У сучаснай літаратуры, напрыклад, энцыклапедыі «Архітэктура Беларусі» існуе блытаніна паміж царквой Васкрасенскага манастыра і Васкрасенскімі царквой і саборам, якія будаваліся ў XVIII -XIX стагоддзях у цэнтры горада. А ў кнізе «Памяць. Барысаўскі раён» нават сцвярджаецца, што яна была знішчана ў 60-я гады XX стагоддзя. Дык калі ж была ўзведзена манастырская царква і якія падзеі разгортваліся вакол яе?

Аналіз старых дакументаў паказвае, што найбольш верагодны час яе пабудовы - 1620 - 1648 гады. Да канца XVII стагоддзя царква прыйшла ў дрэнны стан. Манастыр самастойна адрамантаваць яе быў не ў стане. Дапамогі чакаць не было ад каго таму, што праваслаўная царква на той момант на Беларусі была малалікай і малаўплывовай. Каб атрымаць грошы на рамонт царквы, тагачасны ігумен Васкрасенскага манастыра Феадосій з 1692 года па 1706 год тры разы ездзіў у Маскву. Вялікае княства Літоўскае і Маскоўская дзяржава на той момант хаця і былі саюзнікамі, мелі дастаткова напружаныя адносіны. Таму афіцыйнае стаўленне да праваслаўя наогул як да прамаскоўскай рэлігіі, так і да барысаўскага праваслаўнага манастыра, у прыватнасці, было дастаткова прахалодным. Тутэйшае кіраўніцтва ўвесь час схіляла манахаў да пераходу ва уніяцтва. У 1718 годзе настаяцель Барысаўскага манастыра разам з настаяцелямі іншых праваслаўных манастыроў Вялікага княства Літоўскага скардзіўся ў лісце да маскоўскага манарха Пятра 1 на ўціск тутэйшых праваслаўных. У сваіх тагачасных лістах настаяцель сцвярджаў, што яму ладзяць перашкоды ў правядзенні абрадаў ці наогул забараняюць іх праводзіць па-за межамі царквы. Па яго словах, з 1720 года на працягу дзесяцігоддзяў не давалі дазволу на рамонт царквы. Нават у 1749 годзе, калі Масквою мэтанакіравана былі вылучаны грошы на яе рамонт, манахам не дазвалялі яго правесці. Наўрад ці прыведзеныя вышэй факты з'яўляліся поўнай праўдай. Іх аправяргае, напрыклад, ліст барысаўскага старосты Агінскага да падстаросты, які быў напісаны 21 студзеня 1723 года. У ім прызнаецца свабода веравызнання барысаўцаў і недапушчальнасць змены іх веры з дапамогаю сілы або прымусу. Аднак, як кажуць, дыму без агню не бывае.

Барысаўскія старосты, каб зацікавіць у пераходзе манахаў у унію абяцалі пабудаваць новую Васкрасенскую царкву ў цэнтры горада. У рэшце рэшт 25 сакавіка 1753 года новы настаяцель манастыра іераманах Ігнацій Шашкевіч разам з манахамі і прыхаджанамі прыняў унію. Манастыр яшчэ пэўны час (магчыма да 1778 года) хутчэй за ўсё дзейнічаў як уніяцкі. У 1778 годзе была ўзведзена ў цэнтры горада новая Васкрасенская царква (дарэчы, сучасны Васкрасенскі сабор сваю назву бярэ менавіта адсюль). Старая царква, як і ўсе іншыя барысаўскія цэрквы, у 1794 годзе новай уладай была зноў зроблена праваслаўнай. З цягам часу яна не раз мяняла назву, рамантавалася, але ніколі не разбуралася цалкам.

З сярэдзіны XVIII стагоддзя да 50-х гадоў XX стагоддзя яна выкарыстоўвалася як могілкавая царква. Потым была зачынена, былі разабраны яе вежа і званіца. Выкарыстоўвалася як склад. З нядаўняга часу аддадзена стараабрадскай абшчыне і зноў выкарыстоўваецца як храм.

*М.Мацельскі*



**Выгляд царквы ў 1955 годзе**
*(фота з архіва Барысаўскага краязнаўчага музея)*



**Выгляд царквы на паштоўцы пачатку XX годзе**

**Выгляд царквы ў 1989 стагоддзя**



# Майстэрства ці звычайны цуд

Больш як пяць тысяч год чалавецтва знаёма са шклом . Старажытныя грэкі знойдзены ў гарах мінерал назвалі «крысталас», што азначала лёд. І сапраўды, крышталь нечым нагадвае глыбу лёду, ад якой павявае холадам і безжыццёвасцю.

Аднак сапраўднае майстэрства і творчасць людзей здольны ўдыхнуць жыццё, напоўніць радасцю і надзеяй нават злітак, які ледзяніць вока. І падобны цуд штодзённа твораць рукі майстроў Барысаўскага крышталёвага завода.У 1998 годзе заводу споўнілася 100 гадоў, на працягу каторых з пакалення ў пакаленне перадаюцца добрыя традыцыі філіграннага майстэрства. За час свайго існавання завод набыў вядомасць далёка за межамі Беларусі: у Англіі, Югаславіі, Германіі, Фінляндыі, Канадзе, Японіі, Францыі, на Кубе, праслаўляючы тым самым наш горад.Вырабы, якія выпускае завод, сапраўды поўныя жыцця і ўвасабляюць самыя розныя чалавечыя думкі і фантазіі. Яны цешаць вока і прыцягваюць сваёй незвычайнай таямнічасцю, саграваюць душу.

Самыя незвычайныя і ўнікальныя вырабы захоўваюцца ў музеі Барысаўскага крышталёвага завода. Пераступіўшы парог музея, трапляеш у неверагодны свет чалавечага майстэрства. Экспанаты здзіўляюць сваёй непаўторнасцю, мнагаграннасцю асацыяцый і яркіх уражанняў. Разам з тым яны напоўнены пяшчотай і дабрынёй чалавечай душы. Уражвае тое, як гэты халодны, непадатлівы, на першы погляд, мінерал ператвараецца ў феерверк фарбаў, іскраў, падпарадкоўваецца руху рук майстра, яго думак, увасабляючыся то ў рэзкіх, то ў самых грацыёзных формах.

А самым галоўным застаецца імкненне падараваць людзям прыгажосць і радасць, напоўніць іх душы шчасцем.Гэта дапамагае пераадольваць перашкоды і цяжкасці, а значыць, жыць з упэўненасцю і аптымізмам, дасягаючы новых поспехаў, узбагачаючы акаляючы свет цудатворнай сілай душы.

*М.Сіткоўская*

# МП, ТАА, і іншыя

Газета «Гоман Барысаўшчыны» прааналізавала колькасць і форму ўласнасці суб'ектаў гаспадарання ў Барысаве. Дадзеныя прыведзены па стану на 9 сакавіка 2000 года.

Усяго ў нашым горадзе 3789 суб'ектаў гаспадарання. Сярод іх дзяржаўных 86, недзяржаўных (без уліку індывідуальных прадпрымальнікаў) 493, індывідуальных прадпрымальнікаў (ІП) 3210.

**Структура недзяржаўных суб`ектаў гаспадарання**




Да ўнітарных прадпрыемстваў (УП) аднесены і прыватныя малыя прадпрыемствы (ПМП). Гэта тая самая форма ўласнасці, але, згодна новаму заканадаўству, усе ПМП павінны сёлета прайсці перарэгістрацыю і пераўтварацца ва УП. ІП - гэта былыя прыватныя прадпрымальнікі, што прайшлі перарэгістрацыю.

Сярод суб'ектаў гаспадарання маецца тэндэнцыя да памяншэння іх колькасці. Так, у параўнанні з узроўнем 1996 года іх колькасць скарацілася больш чым на 50%.

*Падрыхтаваў М.Лазар*

# З гісторыі барысаўскага гандлю

Да Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Барысаве існаваў прыватны гандаль. Гандаль размяшчаўся ў асноўным у цэнтры горада (рыначная плошча і тэрыторыя вакол яе). У 1908 годзе тут былі пабудаваны 4 каменных аднапавярховых будынкі, у якіх знаходзілася 112 невялікіх лавак па продажу прадуктовых і прамысловых тавараў. Далей па Лепельскай вуліцы былі мясныя рады ў каменных будынках. Усіх відаў гандлёвых прадпрыемстваў у горадзе налічвалася каля 400. Памеры лавак былі ў асноўным 15-20 кв.м. Гандлем займаліся ў асноўным габрэі. Больш багатыя купцы мелі прыказчыкаў, але ў асноўным у мелкіх лавачках гандлявалі самі гаспадары. Баскінд, Айзенштадт, Левін, Шэнейман, Парэцкі, Гуптэр - вось прозвішчы некаторых з тых, хто займаўся гандлем дарэвалюцыйнага Барысава. Абутковых крамаў не было. Абутак выраблялся па заказу ў саматужнікаў. Не прадавалася і гатовае адзенне, за выключэннем адной лаўкі, якая вяла продаж тандэта - вопраткі з грубасуконных тканін.У горадзе мелася аддзяленне амерыканскай фірмы «Зінгер», дзе адпускаліся швейныя машыны за наяўны разлік і ў крэдыт на 5-10 гадоў.

Пасля рэвалюцыі дэкрэтам СНК адбыўся пераход ад прыватнага гандлю к сацыялістычнаму каператыўнаму. У выніку разрухі забеспячэнне адбывалася па картках. Дадаткова ствараюцца 17 галінавых гандлёвых прадпрыемстваў, непасрэдна падначаленых г.Мінску, для свабоднага продажу тавараў насельніцтву па камерцыйных цэнах. Яны праіснавалі да 1932г. і былі адменены разам з картачнай сістэмай. У гэты перыяд арганізаваўся гархарчпрамгандаль.У гэты час працавала 35 прадуктовых крамаў.

У даваенны перыяд тавараў было недастаткова і іх гандаль суправаджаўся вялікімі чэргамі. У гады акупацыі нямецка-фашысцкімі захопнікамі гандаль амаль спыніўся. Працавалі чатыры крамы, у якіх па прадуктовых картках выдавалі хлеб, соль і запалкі. Утрыманцам 150г. хлеба ў дзень, працуючым - 250г. Пасля вызвалення горада з 1944 г. па 1947 г. продаж насельніцтву і прадуктовых, і прамысловых тавараў ажыццяўляўся па картках. К 1944г. пачало працаваць 9 гандлёвых кропак, а к 1950 году іх колькасць павялічылася да 50.Пачалося будаўніцтва тыпавых цагляных крамаў замест часовых каркасна-засыпных.

1 студзеня 1960 года харчпрамгандаль раз'яднаўся на харчгандаль і прамгандаль. У пачатку 70-х гадоў пачалося масавае ўкараненне прагрэсіўнага метаду гандлю - самаабслугоўвання.

Апошнім часам харчгандаль узначальвае Яшчанка Г.В. Крамы набываюць еўрапейскі выгляд, кожны год рэканструюцца і праводзяцца высокаякасныя рамонты гандлёвых кропак, набываецца сучаснае абсталяванне, якое адпавядае лепшым сусветным узорам. Дастаткова наведаць крамы №№25; 3; 13; 20; 34; 59, каб пераканацца ў гэтым. Разам з гэтым павышаюцца ўмовы працы і прафесіяналізм прадаўцоў, арганізаваліся зладжана працуючыя калектывы. Нягледзячы на эканамічныя цяжкасці ў рэспубліцы, гархарчгандаль аператыўна рэагуе на запатрабаванні і збаўляецца ад недахопаў. Асартымент і тавараабарот павялічваецца і гэта дае надзею нам, барысаўцам, што ўзровень нашага жыцця ў хуткім часе значна палепшыцца.

*І.Сямёнава*



# Ці ўбачым адраджэнне старога горада?





Супрацоўнікі Дзяржаўнага комплекснага праектнага інстытута



**Праект рэстаўрацыі** вонкавага выгляду будынкаў па вул. III Інтэрнацыянала (зверху) і іх сучасны стан (злева)

Барысаў страчвае мноства архітэктурных помнікаў. З кожным днём гэта бачна ўсё больш яскрава. Калі такое становішча спраў не зменіцца, то нашым нашчадкам застануцца толькі ўспаміны бацькоў і фотаздымкі.

Каб даведацца, што робіцца, што магчыма зрабіць па зберажэнню помнікаў архітэктуры, мы звярнуліся да галоўнага архітэктара Дзяржаўнага комплекснага праектнага інстытута Лорына Сяргея Віктаравіча.

- Любы помнік павінен глядзецца з пэўнай адлегласці. Таму рэканструкцыя помніка павінна вырашацца ў комплексе, гэта значыць, павінны , акрамя ўсяго іншага, прыводзіцца ў парадак тратуары, малыя архітэктурныя формы, разбівацца клумбы і г. д. Некалькі слоў пра архітэктурныя помнікі старой часткі горада. На нядаўні аўкцыён выстаўляліся чатыры будынкі, у якіх месціцца магазін посуду, канцтавары, фотатавары і атэлье. Адна фірма хацела выкупіць іх ва ўласнасць. Кіраўніцтва фірмы звярнулася ў наш інстытут за праектам іх рэстаўрацыі. Мы зрабілі работы толькі па знешняму выгляду будынкаў, унеслі пэўныя дапаўненні, захаваўшы іх гістарычны выгляд. Але, як высветлілася, фірма планавала толькі касметычны рамонт. Трэба сказаць, што калі хто набывае ва ўласнасць архітэктурны помнік, то павінен паклапаціцца аб захаванні і падтрыманні яго першапачатковага выгляду. Тут неабходна падкрэсліць, што поўная рэстаўрацыя помніка каштуе вельмі дорага. Рэстаўрацыя патрабуе значна большых сродкаў, чым рэканструкцыя. Большасць уладальнікаў такога роду будынкаў за недахопам сродкаў належным чынам нічога не робяць, у лепшым выпадку - толькі іх фарбуюць. Таму сёння мы маем толькі тое, што маем.

Кожны,напэўна, ведае будынак, дзе многія гады мясціўся ваенкамат. На сёння ад яго засталіся толькі два пралёты замест пяці. Дзе дзелася былая веліч, выступаючая частка парапета з пампезнымі калонамі, балконы...? На гэтай жа вуліцы Дзяржынскага стаяць дабротныя дамы купцоў, багатых мяшчан. Да непазнавальнасці змяніліся гандлёвыя рады. Пры «рамонце» страчаны фрагменты, дэталі фасадаў; іх збівалі, тынкавалі ці заляплялі пліткай. На добры лад, у горадзе павінна працаваць асобная служба, якая б назірала за такога роду «рэстаўрацыяй». Гарадскі аддзел архітэктуры з такімі задачамі не спраўляецца, бо ў яго сваіх спраў хоць адбаўляй. Так, ні адзін архітэктар не паставіць подпіс пад такога роду «рамонтам». З другога боку, загадаць тым жа гаспадарам рабіць рамонт належным чынам няма магчымасці. Забараніць рамантаваць наогул - само па сабе развальцца. Выходзіць, што выйсця з такога становішча няма. Беднасць дыктуе свае правілы.

- Сяргей Віктаравіч. Ці магчыма, на Вашу думку, каб Барысаў меў сваё аблічча?

- Асноўная праблема горада - дрэнная сувязь старой часткі горада з новай і новай з залінейным раёнам. Транспартны мост праз Бярэзіну для горада размешчаны не зусім удала. Ён прыстасаваны для патрэбаў магістралі, але не адпавядае патрабаванням горада. У мінулым ён быў там, дзе цяпер пешаходны мост. У нас у горадзе наогул дрэнна развіта дарожная сетка. І яшчэ. Так склалася, што большасць дзяржаўных і камерцыйных устаноў знаходзяцца ў новай частцы горада. Натуральна, што свае грошы яны ўкладваюць у развіццё гэтай часткі горада.

І апошняе. Усім вядома, што наш дабрабыт напрамую залежыць ад эканамічнага стану дзяржавы. У свой час,напрыклад, вельмі хутка будаваўся жылы раён ВА «Экран». Аблічча старога горада набывала новыя рысы. Цяпер, калі справы на заводзе далёка не бліскучыя, развіццё завода, а значыць, і старой часткі горада прыпынена.

*Гутарку вёў В.Пчолка*

## Сітуацыя пагаршаецца

*За апошнія дзесяць гадоў было шмат гучных заяў, планаў і праектаў па рэстаўрацыі помнікаў гісторыі і культуры нашага горада. Але на самой справе ўсё застаецца паранейшаму і нават сітуацыя пагаршаецца. І калі для буйнамаштабнай рэстаўрацыі патрэбны вялікія сродкі, то для бягучага рамонту помнікаў горадабудаўніцтва хапіла б і належнага кантролю з боку гарадскіх улад. На жаль, нічога падобнага не адбываецца. Вось свежы прыклад. Пры правядзенні рамонтных работ у магазіне «Мэбля» у старой частцы горада, збіваюцца і закладваюцца цэглай арачныя зводы вокнаў і ўстанаўліваюцца квадратныя непрывабныя ваконныя блокі, якія змяняюць экстэр'ер гандлёвых радоў, і нікому да гэтага няма ніякай справы.*

*Л.Гадун*





**Аптэка к. XIX - п. XX ст.**

**Рэстаўрацыя вонкавага выгляду (зверху) і сучасны выгляд (злева)**

**Гандлёвыя рады.** Фрагмент





## Выгляд Касцёла

◄ на пачатку XX ст.

сучасны стан ►

напрыканцы 80-х гадоў ▼





# Касцёл і яго пробашч

Сваю гісторыю касцёл у Барысаве пачынае з XVII стагоддзя. Яго пабудаваў на былой Мінскай вуліцы стараста Адам Казановіч, у той жа час касцёлу былі перададзеныя землі маёнтка Ратуцічы ў якасці падарунка ад Барысаўскага старостава. Але, на жаль, гэты будынак быў драўляны і быў знішчаны агнём у 1806 годзе, прастаяўшы 150 гадоў. Неадкладна пачалі ўзводзіць новы будынак. Гэтым заняўся прэлат Ануфрый Гзоўскі. Аднак будаўніцтва зацягнулася на 17 гадоў і завяршылася ў 1823 годзе. Але гэта быў толькі пачатак, таму што знешні выгляд касцёла не задаволіў прыхаджан, і ў 1836 годзе зноў пачаліся работы па ўпрыгожанню фасада касцёла. Толькі пасля гэтай рэканструкцыі ён атрымаў сучасны выгляд.

Чаго толькі не бачыў за гады свайго існавання касцёл: паўстанне 1863 года, русіфікацыю Беларусі, яшчэ адзін пажар 1900 года, кастрычніцкі пераварот, рэпрэсіі і ганьбу 1937 года, калі знікла ўся маёмасць касцёла, а будынак стаў выкарыстоўвацца ў якасці сховішча.

Дзіўна, але падчас вайны ніводная бомба, снарад, нават куля не прычынілі касцёлу ніякіх пашкоджанняў. Пасля вайны ён быў кінатэатрам, спартыўнай залай, а потым увогуле пуставаў.

У 80-е годы групе каталікаў-энтузіястаў на чале з Пятром Зарэмба пасля шматгадовага аббівання парогаў у мясцовых і цэнтральных установах удалося дабіцца стварэння абшчыны, рэгістрацыя якой адбылася 7 лютага 1989 года, а 14 ліпеня 1990 года касцёл быў асвечаны біскупам Тадэушам Кандрусевічам. Неўзабаве з Польшчы быў прызначаны настаяцель Юзаф Пятушка.

І вось 2000 год. Прайшло 10 гадоў, як ён прыехаў у наш горад. Было гэта 3 жніўня 1990 года. Пачаўся новы этап адраджэння Барысаўскага касцёла.

Нарадзіўся Юзаф Пятушка ў 1932 годзе ў Заходняй Беларусі. Як ён сам сказаў: «Мае карані знаходзяцца тут. Я знайшоў магілкі сваіх дзядоў і прадзедаў, якіх нават не ведаў, на магілках у Росіцы, на мяжы з Латвіяй».

Вайна многім прынесла бяду, не абмінула яна і яго сям'ю. У гэты час ён жыў у Польшчы, Латвіі. Школу (гімназію) скончыў у Польшчы, на мяжы з Чэхіяй. Атэстат сталасці атрымаў у Варшаве.



З 14 гадоў выхоўваўся ў школе скаўтаў. Ксёндз Юзаф скончыў два універсітэты, Варшаўскі і Люблінскі, атрымаў спецыяльнасці тэолага і гісторыка. Валодае некалькімі еўрапейскімі мовамі. Пабываў у Англіі, Францыі, Германіі,Аўстрыі, Чэхіі, Славакіі, Югаславіі.

Айцец Юзаф належыць да ордэна Мар'янаў. Гэта вельмі заслужаны ордэн, які нямала добрага зрабіў для Беларусі: падтрымліваў мову, культуру. Ксяндзы гэтага ордэна да вайны працавалі ў Друі. Айцец Уладзіслаў Чарняўскі пераклаў шмат літургічных і іншых рэлігійных кніг на беларускую мову. А росіцкія ксяндзы Анатоль Ляшчэвіч і Уладзіслаў Кашыра ў лютым 1943 года пайшлі ў агонь разам са сваімі прыхаджанамі, нягледзечы на тое,што немцы давалі ім магчымасць застацца жывымі.

На маё пытанне, чаму з такой разнастайнасці прафесій ён выбраў служэнне госпаду Богу, я атрымаў такі адказ:

- На выбар прафесіі ў асноўным паўплывала вайна, так як я бачыў зверствы, пачварнасць, зло, якое ішло не толькі ад немцаў. І, акрамя таго, у той час я быў ужо добра адукаваны, каб бачыць і разумець, што такія таталітарныя рэжымы, як фашызм і камунізм, хоць і ваявалі між сабою, але былі аднаго паходжання. І гэта была вялікая бяда для народаў, якія трапілі пад гэты гнёт. Усё гэта я успрымаў, як дзеянні сатаны. А каб змагацца з ім, трэба быць на перадавой лініі гэтага фронту, трэба мець духоўны, манаскі сан. Акрамя таго, гэтаму выбару паспрыялі бацькі - сапраўдныя, шчырыя хрысціяне. Таму веру я атрымаў, як гаворыцца, «з малаком маці». Паспрыяла ўмацаванню маёй веры і скаўцкае дзяцінства, бо статут скаўтаў нагадвае божыя запаведзі:

- Скаўт абараняе прыроду.
- Скаўт служыць Радзіме і Богу.
-Не курыць, не ўжывае алкагольных напояў і г. д.

Маёй цяперашняй рабоце на Беларусі паспрыяла тое, што ўжо ўпамянуты Анатоль Ляшчэвіч падрыхтаваў мяне да першага прычасця і спавядаў мяне. Таму я пажадаў прадоўжыць тую справу, за якую ён з Уладзіславам Кашыравым аддалі свае жыцці.

Першы абет жадання служыць госпаду Богу айцец Юзаф даў 15 жніўня 1949 года.

Яшчэ я спытаў у айца, дзе ён працаваў да прыезду ў Барысаў.

- Пасля таго як я даў абет, атрымаў адукацыю і стаў маладым святаром, маім асноўным абавязкам стала выхаванне моладзі, што на той час было забаронена, акрамя ўрокаў рэлігіі ў касцёле. А, да прыкладу, у лагеры ці ў другіх месцах афіцыйнага дазволу на гэта не давалі. Таму даводзілася хітраваць, займацца як бы ў падполлі. Я ездзіў з моладдзю ў горы. Тады не ўзнікалі фінансавыя праблемы, праблемы заключаліся ў тым, каб не трапіць пад кантроль КДБ, каб бацькоў, дзяцей не звольнілі з работы. Але, слава Госпаду, неяк абыходзілася.

Пасля гэтага 10 гадоў працаваў у Варшаве. У цяжкія часы займаўся гуманітарнай дапамогай : раздавалі абеды старым людзям, даставалі неабходныя медыкаменты, выкарыстоўваючы сяброўскія сувязі ў Еўропе.

Апошнія перад прыездам у Беларусь 10 гадоў быў капеланам, духоўнікам, працаваў у інстытуце неўралогіі і псіхіятрыі, вёў тэрапеўтычныя занятки з хворымі. Там былі і псіхіятрычныя хворыя, і алкаголікі, і наркаманы, і хворыя СНІДам.

Летась ксёндз Юзаф адзначыў юбілей - 50 гадоў прыняцця абету на службу госпаду Богу. А благаславенне да гэтай даты падпісаў асабіста Папа Рымскі Ян Павел II 29 чэрвеня 1999 года, калі прыязджаў у Польшчу.

На гэтым я скончыў сваю размову з пробашчам Барысаўскага касцёла Юзафам Пятушкам. А калі развітваўся з ім, пачуў словы благаславення.

*Гутарку вёў М.Лазар*



Выгляд унутры Касцёла напрыканцы 80-х гадоў



Сучасны стан



Сусветны сход ордэна Мар'янаў. Сярод удзельнікаў Ян Павел II і пробашч барысаўскага Касцёла ксёндз Юзэф Пятушка

# БАРЫСАЎШЧЫНА АД НАЙСТАРАЖЫТНЫХ ЧАСОЎ ДА СУЧАСНАСЦІ

*(Працяг, пачатак у № 1-11 за 1996 - 2000 гг.)*

## Наш край пад час заняпаду Вялікага княства Літоўскага

### Вайна 1654 - 1667 гадоў

На пачатку 1653 года Масковія пачала падрыхтоўку да буйнамаштабнай вайны з Вялікім княствам Літоўскім. К сярэдзіне 1654 года яна была ўжо гатова, а яе войскі (тры арміі) былі размешчаны ўздоўж мяжы з нашай дзяржавай. Паўднёва - заходняя армія пад кіраўніцтвам князя А.Трубяцкога, якая мясцілася ў Бранску, налічвала каля 15 тысяч жаўнераў. Яна мусіла рушыць на Раслаў - Мсціслаў - Барысаў. Цэнтральная армія маскоўцаў у колькасці 41 тысячы вяроў меркавала рушыць на Смаленск. Трэцяя армія ў колькасці 15 тысяч жаўнераў мела намер з Вялікіх Лукаў весці наступ на Віцебск - Полацк. Акрамя таго з поўдня на Гомель - Чачэрск - Стары Быхаў мела намер рушыць войска з 20 тысяч казакоў, якіх пасылаў Багдан Хмяльніцкі. Уся ж армія Вялікага княства Літоўскага на той момант складалася з 10 - 12 тысяч жаўнераў. Не спрыяў падрыхтоўцы да адпору агрэсіі і разлад, які меў месца ў нашай дзяржаве.

Напрыканцы траўня 1654 года маскоўскае войска рушыла на Вялікае княства. Натуральна, што пры такіх суадносінах сіл, нашы войскі не маглі стрымаць чужынцаў. Ужо ў жніўні войскі Трубяцкога пераправіліся каля Цяцерына праз Друць і рушылі ў накірунку Барысава. Тую частку войска княства (каля 8-9 тысяч жаўнераў), якая супрацьстаяла Трубяцкому, узначальваў вялікі гетман Януш Радзівіл. Ён намагаўся пазбягаць сутычак, аднак ля Шапялевічаў (70 кіламетраў ад Барысава) быў вымушаны даць бой. У выніку войска Вялікага княства атрымала моцную паразу. Загінула каля тысячы жаўнераў. Тыя, хто застаўся ў жывых, рассеяліся па лясах. Сам жа Радзівіл ледзь уратаваўся ад смерці і параненны хутка з'явіўся ў Барысаве. Адсюль ён накіраваўся ў Менск. Рэшткі войска княства адступалі асобнымі атрадамі, у тым ліку і праз наш край, на захад.

Трубяцкі пасля разгрому войска Радзівіла на Барысаў не пайшоў, а вярнуўся назад і ўдзельнічаў у захопу тых ўсходніх беларускіх земляў і гарадоў, якія яшчэ аказвалі супраціўленне. Вайсковыя дзеянні ў 1654 годзе працягваліся да глыбокай восені, але Барысаўшчына засталася па - за межамі асноўных дзеянняў. У кастрычніку таго ж года маскоўскі цар выдае загад перасунуць некалькі атрадаў свайго войска да Барысава і Менска, што і было здзейснена. Аднак у нашым краі яны ў бай не ўступалі, а займаліся здабычай інфармацыі. Так, 7 студзеня 1655 года імі каля Барысава быў перахваваны сотнік Сапегі, які быў пасланы за дапамогай.

Яшчэ восенню 1654 года Вялікае княства змагло аднавіць сваё войска. Радзівілу ўдалося вярнуць Воршу, Копысь, Дуброўну і асобныя іншыя гарады. Спробы вярнуць Віцебск і Магілёў поспеху не мелі. Аблога апошняга цягнулася да траўня 1655 года, пасля чаго асноўнае войска адышло глыбока ў тыл, у раён Нясвіжа. У гэты час вайсковыя дзеянні зноў пачалі набліжацца да нашага краю. У траўні 1655 года пад Талочынам адбылася бойка паміж асобнымі супрацьлеглымі атрадамі. Поспех быў на баку маскоўцаў.

Напрыканцы вясны 1655 года маскоўцы мелі намер зноў здзейсніць вялікі паход на княства. З поўначы армія Шарамецьева мусіла была ісці на Вільню, Коўна, Гародню, Берасце. З поўдня - армія князя Трубяцкога павінна была наступаць на Стары Быхаў, Слуцак ды Навагародак. Цэнтральная - галоўная частка маскоўскай арміі меркавала ісці на Барысаў, Менск і далей на Вільню.

24 траўня 1655 года асноўныя сілы маскоўскага войска выйшлі са Смаленска ў накірунку Барысава. Яшчэ раней на Барысаў быў высланы полк жаўнераў і драгуноў, якім кіраваў Юрый Барацінскі. 13 траўня пад Барысавам паміж апошнім і атрадам жаўнераў Вялікага княства, якім кіраваў Паклонскі, адбыўся бой. У выніку Паклонскі быў разбіты, а маскоўцы прыступілі да штурму Барысава. Але аваладаць горадам Барацінскі не змог. Таму 12 чэрвеня маскоўцамі было прынята рашэнне накіраваць яму на дапамогу ваяводу Багдана Хітрова з 5400 жаўнерамі (4159 пяхоты і 1207 кавалерыі). У выніку 19 чэрвеня 1655 года Барысаў быў узяты штурмам і спалены. Рэшткі войска, якое абараняла наш горад, змагло перайсці на правы бераг Бярэзіны, спаліць за сабою мост і рушыць у накірунку Менска.Маскоўскі цар адразу як атрымаў вестку аб захопе Барысава, загадаў асноўнаму войску рушыць на Менск. Чужынцы вельмі хутка адбудавалі мост праз Бярэзіну, і ўжо 24 чэрвеня іх перадавыя атрады хутка рушылі па ім на Менск. Ён не меў ні добрых умацаванняў ні значнага вайсковага гарнізона. Таму ён быў хутка ўзяты.

10 ліпеня 1655 года ў Барысаў прыбыў сам маскоўскі манарх - Аляксей Міхайлавіч. Ён зрабіў сябе тат стаўку. Адсюль ён 12 ліпеня 1655 года абвясціў аб паходзе да Вільні і Варшавы і 13 ліпеня са сваім войскам рушыў з Барысава ў накірунку сталіцы Вялікага княства. Менш чым праз два месяцы Вільня пала.

Варта адзначыць, што княству ў гэты час не было адкуль чакаць дапамогі. Каралеўства Польскае ў гэты час баранілася ад моцнага шведскага войска. Да восені 1655 года шведы змаглі захапіць як Варшаву, так і Кракаў. Акрамя таго Швецыя напала на паўночныя землі Вялікага княства Літоўскага і ўжо ў сярэдзіне лета авалодала вялікай тэрыторыяй, у тым ліку гарадамі Браславам і Друяй. Асобныя атрады шведаў даходзілі аж да Менскага павету. Так, 14 чэрвеня 1657 года маскоўскі манарх Аляксей Міхайлавіч быў вымушаны падпісаць указ аб пасылцы з Барысава ў Менск трох рот жаўнераў для змагання са шведскімі атрадамі.

У вельмі цяжкіх умовах, якія склаліся, частка вышэйшай шляхты Вялікага княства для таго, каб захаваць дзяржаву, вырашыла перайсці пад апеку шведскага караля Карла Х Густава і 20 кастрычніка 1655 года заключыла унію са Швецыяй. Згодна яе кароль Шведскі з'яўляўся адначасова і вялікім князем Вялікага княства Літоўскага. Аднак гэтая унія была ўспрынята ў дзяржаве неадназначна.

*(Працяг будзе)*

*М.Мацельскі*

# Таленавіты педагог і паэт

*Сабе і равеснікам*

*Калі ўсё меней праз гады*
*Тых, з кім сталеў, дружыў,*
*Хто называў цябе на ты,*
*Тым болей даражы*
*Астатнімі, што, як і ты,*
*Вітаюць сонца ўсход,*
*Жывуць, імкнуцца праз гады*
*У далейшы веснаход.*

**Яўген Мацьвеевіч Замерфельд** нарадзіўся 25 лістапада 1912 года ў вёсцы Жылічы Кіраўскага раёна Магілёўскай вобласці ў сям'і садоўніка.Бацька (па нацыянальнасці латыш) быў арыштаваны ў 30-х гадах і без вестак прапаў. Сям'я пераехала на Барысаўшчыну, некаторы час жыла ў Іканах. У гэтыя гады Яўген вучыўся ў Зембінскай сямігодцы, адначасова загадваў бібліятэкай. Ужо ў школьныя гады захапляўся кнігамі, пад яго кіраўніцтвам выдавалася цікавая насценгазета. Жылі бедна, пастаянна недаядалі. З далёкага пагалоднага дзяцінства яму запомніліся словы мачухі, якая на чарговую просьбу даць чаго-небудзь паесці, сказала: «Навошта табе, Яўгенка, сала, калі ў хаце няма хлеба».

У 1928 годзе паступіў у Барысаўскае педвучылішча. Пасля працаваў у рэдакцыі газеты «Бальшавік Барысаўшчыны», у аддзеле культуры і школ. Быў сярод тых барысаўцаў, хто ў ліпені 1934 года радасна віталі Янку Купалу, які быў у творчай камандзіроўцы на Барысаўшчыне. Доўгі час захоўваў рукапісы твораў народнага песняра, якія былі напісаны на нашай зямлі і надрукаваны ў мясцовай газеце. У другой палове 30-х гадоў вучыўся ў Мінскім педінстытуце. На апошнім курсе быў арыштаваны пасля чарговай чысткі бібліятэкі за фразу: «Засталіся толькі Я.Купала і Я.Колас, дык і мне вальготна легчы!» У Мінскай турме сядзеў разам з многімі выдатнымі вучонымі, пісьменнікамі, што дапамагло дапытліваму маладому чалавеку павысіць свой духоўны ўзровень. Праз паўгода допыта з турмы выпусцілі, і ён вярнуўся ў Барысаў да сястры. Працаваў у рэдакцыі, апошні курс педінстытута закончваў завочна.

У акупіраваным Барысаве загадваў пашпартным сталом, рыхтаваў дакументы для партызан. У гэты час блізка пазнаёміўся з Міхасём Клімковічам (аўтарам Гімна БССР), які жыў у Барысаве пад наглядам жандармерыі. Пад канец вайны перайшоў у партызанскі атрад.

У 1945 годзе дырэктар педвучылішча Бродскі Яўген Вячаслававіч запрасіў яго выкладаць беларускую мову і літаратуру. Працаваў там да 1958 года, пасля яго закрыцця - у школе-інтэрнаце да 1974 года.

Па запрашэнню Я.Замерфельда ў Барысаў прыязджалі і выступалі вядомыя беларускія пісьменнікі П.Броўка, М.Танк, І.Шамякін, М.Лынькоў, С.Шушкевіч, Р.Хацкевіч і многія другія. Пад уплывам свайго настаўніка першыя крокі ў літаратуры рабілі Алесь Ставер і Васіль Зуёнак. Сам Яўген Мацьвеевіч стаў друкавацца з 1929 года. Яго творы можна сустрэць на старонках часопісаў «Узвышша», «Заклік», «Полымя», «Бярозка» і інш. Актыўна працаваў як метадыст. Сумесна з В.А.Самцэвічам падрыхтаваў «Зборнік тэкстаў для ізлажэнняў», Мінск,1953 год, «Зборнік практыкаванняў па сінтаксісу і пунктуацыі», Мінск,1950 год. Пісаў рэцэнзіі, артыкулы пра творчасць Я.Коласа, А.Куляшова, Я.Маўра, Э.Самуйлёнка, М.Клімковіча, Р.Хацкевіча і другіх.

У памяці сваіх шматлікіх вучняў, калег, знаёмых Яўген Мацьвеевіч застаўся таленавітым педагогам, паэтам, сціплым, далікатным чалавекам, асноўным талентам якога была дабрыня, паважлівасць да любога чалавека.

Памёр Замерфельд Я.М. 29 красавіка 1980 года.

Памяць.

Колькі год прайшло,
а зямля ўсё буяе:
біе ў неба травамі,
кветкамі салютуе
над магіламі
безыменнымі,
над людзьмі
безгалоснымі.

*І.Белы*

# Адбылася экскурсія

У нядзелю, 19 сакавіка адбылася першая экскурсія па гістарычных мясцінах Барысава, па маршруту, прапанаваным нашым чытачам у папярэднім нумары «Гомана Барысаўшчыны». Цікава, што акрамя барысаўцаў да нас прыехала група навучэнцаў БДУ з Мінска. Іх вельмі зацікавіла багатая гісторыя нашага горада.

Экскурсія ўсім спадабалася. І хоць не многа ў нас засталося помнікаў гісторыі і культуры і многія з іх знаходзяцца ў дрэнным стане, але, як выказаўся на гэты конт студэнт факультэта экалогіі Антон Цыбулька, добра, што захавалася хоць гэта...

*У.Гадун*

# Плённыя намаганні

Апошнім часам значна узрасла цікавасць барысаўцоў да гісторыі свайго краю. Шмат працы ў гэтым накірунку праводзіць настаўніца геаграфіі 17 СШ Галіна Станіславаўна Сыраежкіна. Яна старанна збірае матэрыял аб Барысаўшчыне, вывучае яго і з вялікім педагагічным талентам даносіць яго да сэрцаў сваіх вучняў. Спадзяемся, што намаганні настаўніцы прынясуць плён нашай Бацькаўшчыне.

*У.Гадун*

# Прыродная лякарня

Веснавое сонца з кожным днём усё больш і больш праграввае зямлю. Хутка з'явіцца бярозавы сок. Усім вядомы яго лекавыя і смакавыя якасці. Сок назапашваюць у час руху сокаў з дрэваў, падлеглых рубцы, бо любыя парушэнні кары прыносяць бярозе вялікую шкоду. Піць сок у дамашніх умовах можна толькі свежым. У сувязі з наяўнасцю у ім вялікай колькасці лёгказасваяльных цукраў, мікраэлементаў і іншых рэчываў, ён паляпшае агульны стан арганізма, садзейнічае загойванню язваў, зменшае болі пры падагры, валодае мачагонным дзеяннем. Бярозавым сокам мыюць твар і галаву. Ён робіць скуру эластычнай, паляпшае рост валасоў і знішчае перхаць.

Лекавым сыр'ём з'яўляюцца таксама пупышкі і лісце. Пупышкі нарыхтоўваюць ранняй вясною ў час іх набухання, але абавязкова да распускання лісця. Для гэтай мэты можна выкарыстоўваць галінкі бярозы ад зімняй рубкі дрэваў. Ссечаныя галінкі ўторкваюць у снег, а вясною, калі пупышкі набухнуць, іх збіраюць. Бярозавыя пупышкі валодаюць моцным мачагонным дзеяннем (3-4 г. на 0,5 л. кіпятку). Іх выкарыстоўваюць у выглядзе настою пры ацёках ныркавага і сардэчнага паходжання. Спіртавая настойка з'яўляецца надзейным раназажыўляючым сродкам. Яна дапамагае пры гнайнічковых захворваннях, дрэнна загойваючыхся ранах, экзэмах.

Лісце бярозы збіраюць у чэрвені-ліпені ў сухое надвор'е пасля сходу расы. Настой лісця выкарыстоўваюць пры захворваннях нырак і мачавога пузыра. Ён змяншае ўтварэнне мачавых камянёў. Эфектыўнасць мачагоннага ўздзеяння яго нават вышэй за хімічныя сродкі. Пры прыёме настою павялічваецца вывядзенне мачавой кіслаты з арганізма. Настой бярозавага лісця мае моцнае жоўцегоннае дзеянне. Для яго прыгатавання 6-8 г. лісця заліваюць 0,5 л. гарачай вады, кіпяцяць 10 хвілін, настойваюць і працэджваюць. Прымаюць па 50 г. 3 разы на дзень у час яды. Добра размятае і прапаранае лісце выкарыстоўваюць для змяншэння болю ў суставах. Іх кладуць на хворае месца на 2-4 гадзіны, робяць тканевую павязку і пакрываюць плёнкай. Курс - 7-10 дзён.

Актываваны вугаль прымаюць як адсарбент пры атручванні ядамі і бактэрыйнымі таксінамі, пры метыяўрызме.

Бяроза - распаўсюджанае дрэва і народны сродак пры многіх хваробах. Выкарыстоўваючы яе ў лекавых мэтах, аднясіцеся да дрэва беражліва, з павагай, і яно прынясе вам карысць.

*І.Магуш*



# Адчынім дзверы ў свет

Гэты матэрыял будзе карысны найперш тым, каму ў рэшце рэшт надакучыла глядзець па тэлевізары вандроўкі па свеце Ю.Сянкевіча, хто вырашыў самастойна з найменшымі затратамі і максімальнай карысцю для здароўя ўбачыць свет. Гэты матэрыял для тых, хто вырашыў паспрабаваць сябе ў велатурызме.

Такім чынам, вы вырашылі ў свой бліжэйшы адпачынак здзейсніць велавандроўку. Што для гэтага неабходна? Вам трэба вырашыць тры асноўны пытанні. Першае - куды ехаць. Другое - з кім ехаць. Трэцяе - ці гатовы ваш транспарт і рыштунак да такой вандроўкі. Не менш важным з'яўляецца і тое, ці гатовы вы маральна да тых цяжкасцей, з якімі вам прыйдзецца сутыкнуцца.

Падрыхтоўку да вялікай вандроўкі неабходна пачаць задоўга да яе здзяйснення. Для першай у жыцці вандроўкі мэтазгодна выбраць маршрут па Беларусі. Гэта могуць быць замкі (пра маршруты па іх агляду мы ўжо пісалі), іншыя архітэктурныя помнікі заходняй Беларусі, Блакітныя, Браслаўскія азёры ды шмат чаго яшчэ. Уражанне ад убачанага застанецца з вамі на доўгія гады. Да маршрутаў па Беларусі мы яшчэ не раз звернемся на старонках нашай газеты. Але куды можна з'ездзіць, каб убачыць штосьці незвычайнае? Аптымальным рашэннем можа быць вандроўка на Украінскія Карпаты. Для складання маршруту неабходна адшукаць літаратуру аб рэгіёне, дзе ён пройдзе. Ад гэтага залежыць поспех вандроўкі. У барысаўскіх бібліятэках такую інфармацыю аб Украіне знайсці немагчыма. Можна звярнуцца ў цэнтральныя бібліятэкі Менска ці да тых, хто ўжо не раз ездзіў у названы рэгіён. Важным пытаннем з'яўляецца набыццё карт рэгіёнаў, куды едзеце. Пажадана, каб у вас была не менш чым «двухкіламетроўка». На Беларусі набыць іх для ўкраінскіх абласцей немагчыма. Аднак гэта можна зрабіць на Украіне. Не забудзьце, што ў горы без дакладнай карты лепей не ехаць. Пры складанні маршруту трэба закласці запасныя дні. Пад час вандроўкі могуць пачацца дажджы, не выключаны паломкі ровараў. Усё гэта можа выбіць вас з запланаванага графіку.

З кім ехаць у вандроўку? Аптымальным для такой паездкі з'яўляецца 5 - 7 чалавек, але не больш за дзевяць. Пры меншай колькасці могуць узнікнуць цяжкасці ў крытычных становішчах, пры большай - паездка ператворыцца ў балаган.

Прапанова адправіцца ў падарожжа можа знайсці водгук у вашых сяброў і знаёмых. Але не спяшайцеся цешыць сябе гэтым. Калі дойдзе час ад'язджаць, добра, калі адзін з пяці ці, нават, дзесяці з іх адважыцца і будзе мець магчымасць ехаць. Вельмі важным для поспеху вандроўкі з'яўляецца псіхалагічны стан у групе. Памятайце, што ўсе ўдзельнікі падарожжа будуць разам дзяліць як поспехі, так і няўдачы. Калі вы нават дома няўтульна сябе адчуваеце пры доўгім знаходжанні сярод асобных знаёмых, добра падумайце перш чым прапанаваць ім ехаць у вандроўку. У групе пажадана, каб усе мелі прыблізна аднолькавыя фізічныя здольнасці. Мэтазгодна да падарожжа здзейсніць некалькі сумесных аднадзённых вандровак па Барысаўшчыне.

На чым ехаць у вандроўку? Пашырана памылковае меркаванне, што ў такое падарожжа неабходна абавязкова ехаць на горным ці іншым шматхуткасным ровары. Гэта не так. Безумоўна, такія ровары маюць шэраг пераваг, але ў выпадку іх паломкі могуць узнікнуць вялікія праблемы. У такі паход можна адпраўляцца на звычайным дарожным ровары. Ні ў якім разе не варта адпраўляцца ў шлях на складным ровары ці іншым падобным з малым дыяметрам колаў. Калі ваш ровар мае толькі нажны тормаз, то для вандроўкі ў горы абавязкова ўсталяваць дадатковы ручны. У гарах нажны тормаз малаэфектыўны і вельмі ненадзейны. Ён не зможа забяспечыць вам бяспеку. Транспарт перад паездкай мусіць быць добра адрамантаваны, змазаны. У ім не павінна адчувацца ніякіх прыкметаў зношанасці дэталяў. Інакш яны падвядуць вас у самы нязручны момант. Не едзьце ў падарожжа на новым, толькі што набытым ровары, або адразу пасля яго капітальнага рамонту. Ровар павінен быць абкатаны. Пажадана, каб ва ўдзельнікаў падарожжа «транспарт» быў аднолькавы. Пры гэтым працей вырашаць пытанні з запчасткамі. У падарожжа не забудзьце ўзяць ключы для рамонту, змазку, спіцы, розныя гайкі і балты. Яны маюць уласцівасць раскручвацца і губляцца пад час вандроўкі. Нярэдка з-за маленькай гайкі могуць узнікнуць вялікія праблемы. Вазьміце з сабою запасныя калодкі ручных тармазоў (калі яны ў вашым ровары савецкія). Пасля аднаго - двух пераваляў ад калодак амаль нічога не застанецца. Трэба быць гатовымі да выхаду тармазнога тросіка. Неабходнасць узяцця іншых запчастак павінна вырашацца індывідуальна. Абавязкова вазьміце адну - дзве запасныя камеры і прылады для іх заклейвання.

Пры зборы рэчаў для вандроўкі неабходна вырашыць, на першы погляд, невырашальную супярэчнасць. З аднаго боку, трэба ўзяць усё неабходнае, з іншага - памер вашага рукзака абмежаваны. Неабходна абавязкова ўзяць палаткі, надуўныя матрацы (можна з разліку два матрацы на трох чалавек) або спецыяльныя дываны, спальны мяшок або штосьці, што можа яго замяніць, цёплую вопратку. Цёплыя рэчы вам спатрэбяцца найперш ноччу ў гарах. Прытым, добра мець на такі выпадак і вязаную шапку. Прадумайце, у чым вы будзеце гатаваць ежу. Не забудзьце ўзяць запалкі. Прытым яны павінны быць недаступны для вільгаці. У кішэні яны не дажывуць і да бліжэйшай раніцы. Вазьміце з сабою невялікі запас харчоў, ёмістасці для вады (напрыклад, пластмасавыя бутэлькі з-пад напояў па 1,5 - 2 літра), хаця б адзін на ўсіх ліхтарык. Загадзя падумайце, як усе гэтыя рэчы можна проста і надзейна замацаваць на багажніку. Не спрабуйце рукзак везці на плячах. Не даедзеце нават да мяжы. Загадзя паклапатуйцеся аб набыцці валюты. Па цэнах сённяшняга дня можна разлічваць на 1 даляр у суткі. Пры неабходнасці гэта сума можа быць істотна паменшана. Пажадана з сабою мець запас грошай на непрадбачаныя выпадкі.

*(Заканчэнне ў наступным нумары)*

**Ю.Гурэвіч**



Львоў



Львоў



Львоў

# Забытыя гульні

*Ці звярталі вы ўвагу, паважаныя чытачы, у якія гульні, акрамя футболу, класікаў і хованак, гуляюць нашы дзеці і падлеткі? Пастараемся ўспомніць адну з тых, якой вабілі свой час у дзяцінстве мы самі і магчыма нашы бацькі.*

У той мясцовасці, дзе я нарадзіўся, гэта гульня называлася «Чыжык». Удзельнічаць у ёй могуць колькі заўгодна чалавек. Спачатку трэба знайсці драўляную палку даўжынёй каля 80 см, адрэзаць ад яе кавалак даўжынёй 12 см і завастрыць з абодвух бакоў так: (мал.1). Усе прылады гатовы, засталося выбраць больш-менш роўнае месца і па лічылцы ці выцягнутай кароткай саломінцы выбраць таго, хто будзе першы кідаць «чыжыка». Яму трэба пакласці «чыжыка» перпендыкулярна выкапанай ямцы і даўжэйшай палкай кіданyць яго як можна далей. Таму ўсе астатнія становяцца ў накірунку палёту «чыжыка» і стараюцца яго злавіць.(мал.2). Калі хто ўхваціў яго дзвюма рукамі, атрымаў 50 ачкоў, адной - 100, а калі злавіў паміж двух пальцаў, то 200 ачкоў. Затым той, хто злавіў «чыжыка», кідае яго, стараючыся папасці па пакладзенай на ямку пасля кідку вялікай палцы і тым самым, патрапіўшы ў яе, заняць месца кідальшчыка. А калі не патрапіў, тады кідальшчык б'е вялікай палкай па завостранаму канцу «чыжыка», той падскаквае ўверх і тады трэба старацца як мага болей пратрымаць яго ў паветры з дапамогай чарговых удараў так, як гэта робяць футбалісты з мячом на трэніроўцы. Кожны ўдар у паветры, гэта 5 ачкоў, а за апошнім трэба як мага далей адбіць «чыжыка» таму, што потым вялікай палкай замяраецца адлегласць ад яго да ямкі. Колькі ўлезла палачак, столькі дадатковых ачкоў яшчэ набраў ігрок. Калі ніхто не злавіў «чыжык» пасля першапачатковага кідка, то набіванне ачкоў адбываецца на тым месцы, куды ўпаў «чыжык».

Як бачыце, у гэтай гульні ўдзельнічаюць адразу ўсе ўдзельнікі. Гуляць можна да тысячы ці да двух, як дамовіцеся. Прыемнага адпачынку!

**Л.Гадун**



Мал.1



Мал.2

**Конкурс**

# Зімовая казка

Зімовыя пейзажы прыгожыя ў любы час дня і ночы. Але ў розныя часы яны адметныя.

Раніца. У паветры кожны гук нібы звініць ад марозу, а сонейка на ўсходзе свеціць чырвонаружовым святлом. Хочацца стаяць і глядзець на гэтую прыгажосць, затаіўшы дыханне! Пачынае світаць. Сонейка ўздымаецца вышэй, і наваколле змяняецца. Усе дрэвы, кусты, поле, якія дагэтуль здаваліся чырвонымі, становяцца ярка-белымі. У лесе ў гэты час дрэвы і кусты, нібыта апранутыя ў цудоўную бялюткую вопратку, стаяць - не варухнуцца. Здаецца, нават рэдкія лясныя птушкі замерлі, каб не парушаць чароўнай прыгажосці гэтага месца...

Вечарэе. Цені адразу пакрываюць зямлю шэрай коўдрай. На небе ўжо няма сонейка, але і месяца яшчэ няма. Дзе-нідзе з'яўляюцца на сіняй прасторы маленькія залацістыя зорачкі. У гэты час у лесе, як у цёплым царстве. Страшна. Глуха. І ўсё роўна прыгожа! Павольна ўсплывае на неба поўны месяц, зоры мільгаюць усё ярчэй і ярчэй. Лес зноў мяняецца. Снег на зямлі, на дрэвах, на кустах, і той снег, які плыве з неба павольнымі шматкамі, вельмі прыгожы. Ён мільгаціць чароўнымі агеньчыкамі, і ад гэтага ўвесь лес падобны ў гэты час на чароўны палац, які нібыта святлее і напаўняецца цудоўнай музыкай. Гэтая музыка ўключае ў сабе гудзенне ветру паміж дрэвамі, скрып снегу пад нагамі велічнага лася, рэдкія крыкі начной птушкі. Прыгожа! Як ёсць - зімовая казка!

*Танканог Раксана, 8 «А», 17СШ*



Фота М.Л.

**Конкурс**

Газета **«Гоман Барысаўшчыны»** працягвае конкурс сярод школьнікаў Барысава і Барысаўскага раёна на лепшы фотаздымак ці артыкул. Нагадваем, што іх тэматыка можа быць самая разнастайная - любы цікавы момант ці гісторыя, сведкамі ці ўдзельнікам якой вы былі. Максімальны размер артыкула - не болей за палову машынапіснай старонкі.

Пераможцы атрымаюць каштоўныя падарункі. Лісты на конкурс з фотаздымкамі і артыкуламі дасылайце да 25 траўня 2000 года на адрас: **222120, Барысаў-1, а/с 43.**

Малюнак Л.Гадуна

# Парады ад Наталлі

*Французская кухня*

**Французскі цыбулевы суп**

500 г. цыбулі, 2-3 ст. лыжкі маргарыну ці масла, 3/4 лыжкі мяснога булёну ці вады, 4-6 кавалкаў белага хлеба, 2-3 ст. лыжкі нацёртага сыру, соль. Нарэзаць цыбулю кольцамі і злёгку абсмажыць без змянення колеру ў палавіне колькасці масла. Пасыпаць перцам. Дабавіць булён і пракіпяціць 15 хвілін. Пасаліць. Лустачкі хлеба злёгку абсмажыць на астатнім масле. Разліць суп у вогнеўпорныя місачкі, укласці лустачкі падсмажанага хлеба, пасыпаць тоўстым слоем нацёртага сыру і паставіць запякацца ў духоўку.

**Яйкі, запечаныя з макаронамі ў таматным соусе**

На 8 яек: 300 г. макаронных вырабаў, 100 г. таматнай пасты, 40 г. сыру, 30 г. масла.

Макароны (лапшу, рожкі) адварыць да паўгатоўнасці, зліць ваду, пакласці ў каструлю трэць масла. Яйкі асцярожна выліваць на патэльню, на якой распушчана астатняе масла, падсмажыць яечню. У глыбокую патэльню (гусятніцу) перакласці макароны, на іх падсмажаныя яйкі, усё заліць таматнай пастай, якую папярэдне разбавіць 1/4 л. вады. Зверху пасыпаць нацёртым сырам. На 5-7 хвілін паставіць у гарачую духоўку. Падобным спосабам можна прыгатаваць яйкі з адвараным рысам, якія прыправіць грыбамі. На гэта пойдзе 200 г. рысу, 200 г. свежых грыбоў.

**Яблычны сюрпрыз**

Абчысціць 4 яблыкі і парэзаць іх на вельмі тонкія кружочкі, пакласці ў посуд, змяшаць 12 супавых лыжак мукі з 2 яйкамі, дабавіць 2 лыжачкі дражджэй, 10 супавых ложак цукру, паўшклянкі вады, 2 супавых лыжкі алею, супавую лыжку рому ( ці іншага алкаголю), крыху солі. Закрыць сумессю яблыкі, зверху пасыпаць дзвюма-трыма лыжкамі цукру. Паставіць у злёгку нагрэтую духоўку на 30 хвілін. Падаваць ахаладжаным.

**Карысная парада**

Лішнюю вадкасць з гароднінных кансерваў можна скарыстаць для прыгатавання супоў, соусаў ці другіх блюд.

# Майце на ўвазе

Гарачую вадаправодную ваду нельга ўжываць у ежу, бо яна вымывае свінец з труб значна інтэнсіўней, чым халодная.

Калі вы не карысталіся халоднай вадой шэсць ці болей гадзін, перш чым набраць яе для ежы, адкрыйце кран і пачакайце, пакуль не сальецца яе столькі, каб яна стала як мага халадней. Такім чынам вы пазбавіце сябе ад вады, якая магла назапасіць свінец, што маецца ў трубах.

# «НЕГАТЫВАМ»

## ЭЛПНЕТ ЭН

Барысаўскі гурт «Негатыў» складаецца з Кашырскага Анатоля - гітара, вакал, тэксты, Бабіцкага Дзмітрыя - бас - гітара, Джакаева Канстанціна - барабаны. «На наш погляд, мы з'яўляемся самай няўдалай камандай. Мы не ведаем такога гурта, у якога б было столькі правалаў. Нам увесь час не шанцуе. Мы няўдачнікі, і гэта наш лёс». Так гавораць самі ўдзельнікі гурта.

Гурт «Негатыў» існуе са снежня 1997 года. Накірунак, у якім працуюць хлопцы, бліжэй да «грандж» з элементамі «панк» і «хард-року». Самі ж «Негатывы» свой стыль не вызначаюць. Яны гавораць, што ствараюць музыку, якая ім падабаецца. Які гэта стыль - іх не цікавіць. Каму падабаецца такая музыка, хай той і слухае. Першае выступленне «Негатываў» адбылося ў ГДА Лядзішчаў у траўні 1999 года. Адразу пасля яго імі сталі цікавіцца.

Усе тэксты «Негатываў» піша гітарыст Анатоль, бо, як ён сам гаворыць, не давярае гэту справу іншым удзельнікам гурта. Ён кажа, што «ва ўсіх нашых песнях прысутнічаюць толькі адмоўныя эмоцыі. Гэта звязана з маім навакольным светам. На жаль, даводзіцца пісаць аб дрэнным, жыццё такое».

Гурту «Негатыў» сапраўды не шанцуе. Свой дэмазапіс яны змаглі запісаць толькі ў студзені 2000 года. Туды ўвайшлі іх найбольш вядомыя песні: «Отбеливатель мозгов» (дарэчы, такую назву носіць іх першы запіс), «Надоело», «Мы не сойдёмся», «Обсцесс», «Большая смена настроения» і г. д. На конт выступленняў «Негатываў» можна дадаць, што акрамя Барысава (кінатэатр «Кастрычнік», канцэрт «Музыканты супраць наркотыкаў») хлопцы выступалі ў Слуцку.

Зараз гурт «Негатыў» сутыкнуўся з пэўнымі цяжкасцямі. Гэта звязана з тым, што бас - гітарыст Д.Бабіцкі служыць у войску. Таму хлопцы шукаюць яму замену. Патрэбны ім і гітарыст. Гітарысты Барысава, можа паспрабуеце свае сілы?

«Негатывы» - добрыя хлопцы, а тое, што ім ўвесь час не шанцуе, гэта пройдзе.

*С.Жук*

*P.S.: Кантактны тэлефон гурта «Негатыў» 2-13-90 (Анатоль)*

# Крыжаванка

Сёння вашай увазе прапануецца лічбавая крыжаванка. Ніжэй прыведзены пералікі лічбаў, якія згрупіраваны па іх колькасці. Вам неабходна падабраць і запісаць у незафарбаваныя радкі і слупкі крыжаванкі лічбы такім чынам, каб супалі іх усе перасячэнні.

Калі крыжаванка запоўнена правільна, вы атрымаеце - А -год заснавання Барысава; Б - год выдання першага нумара газеты «Гоман Барысаўшчыны».

**9:** 103814072, 170703561, 826418438, 416418419, 476418460, 131282182, 296418478, 431537290.

**7:** 2189303, 1742458, 5141457, 3850239, 9716060, 7284196, 9009062, 2697204, 2309210, 9139122.

**6:** 138246, 814580, 348000, 139075, 679682, 102210, 213401, 508402, 901817, 428850, 672041, 810925, 211501, 239954.

**5:** 21193, 15872, 91242, 42734, 83461, 19018, 39181, 32619, 64556, 97322.

**4:** 4603, 8755, 2479, 2031, 1961, 0142, 1039, 9316, 5523, 4853, 9280, 9192.

**3:** 902, 629, 421, 293, 310, 917.




**Адказы на крыжаванку**, што была змешчана ў № 2(11): 1 - Шахавец; 2 - Васкрасенскі; 3 - Гагарына; 4 - Лагачоў; 5 - Старабарысаў; 6 - Зембін; 7 - Аздзяцічы; 8 - Газетная; 9 - Ніўкі; 10 - Бродня; 11 - Лошніца; 12 - Чарневічы; 13 - Брылі; 14 - Гігант.

# Ці ведаеце вы, што...

У **1865** годзе ў Барысаве жыло **5737** чалавек. Сярод іх было

| | |
|---|---|
| дваран | 143 |
| духавенства | 20 |
| купцоў | 103 |
| цэхавых | 19 |
| мяшчан | 3981 |
| вайскоўцаў | 1438 |
| іншых | 3 |

Рамеснікаў у **1865** годзе разам з вучнямі было **197**. Сярод іх былі

| | |
|---|---|
| хлебапёкі | 11 |
| булачнікі | 7 |
| мяснікі | 10 |
| кандытары | 3 |
| краўцы | 31 |
| шаўцы | 22 |
| капялюшнікі | 5 |
| печнікі | 14 |
| камінары | 6 |
| сталяры | 15 |
| цесляры | 6 |
| бондары | 11 |
| слесар | 1 |
| кавалі | 14 |
| меднікі | 2 |
| фарбавальшчыкі | 1 |
| шкляры | 8 |
| гадзіншчыкі | 3 |
| рымары | 2 |
| фурманы | 24 |
| канавал | 1 |

ГОМАН БАРЫСАЎШЧЫНЫ

Рэгістрацыйны нумар 595

Заснавальнікі: І.Белы, У.Буйко, У.Дубаневіч, М.Мацэльскі, М.Пучыла.

Рэдактар М.Мацэльскі

Юрыдычны адрас рэдакцыі: г. Барысаў, 1-ы зав. К.Лібкнехта, 1

Наклад 2000 паасобнікаў

Падпісана ў друк 16.00 26.03.2000 г.

Замова №

Друкарня імя 1-га Мая г. Барысаў, вул. Будаўнікоў, 33

*Адрас для пісьмаў: 222120, Барысаў-1, а/с 43*